Гаючая флора

# Парэчка чырвоная

Валодае высокімі спажыўнымі і лекавымі ўласцівасцямі. Калісьці ў Заходняй Еўропе разводзілася як лекавая расліна, якая скарыстоўвалася для паляпшэння дзейнасці страўніка і кішэчніка, павелічэння выдзялення поту і мачы, а з імі і лішкаў соляў з арганізму, як жоўцегонны, паслабляльны, процізапаленчы і кроваспыняючы сродак.

Вельмі добры ачышчальнік кішэчных таксінаў дзякуючы багатаму ўтрыманню пектынаў. Пектыны яшчэ і выводзяць лішак халестырыну. Гэта цудоўны жарапаніжаючы сродак. Варта замарозіць на зіму хаця б 1 кг ягад з галінкамі на выпадак прастуды ці грыпу. Для лячэння атэрасклерозу, захворванняў сістэмы кровазвароту трэба сталовую лыжку ягад з галінкамі запарыць шклянкай вару. Настойваць да ахалоджання. Піць па паўшклянкі некалькі разоў за дзень у прамежках паміж прыёмамі ежы.

Лісці парэчкі валодаюць высокімі лекавымі ўласцівасцямі. Іх настой карысны пры гіпавітамінозе.

Сталовую лыжку лісцяў заліць паўшклянкай вады. Вытрымліваць на вадзяной лазні 15 хвілін, піць па 1/3 шклянкі 5-6 разоў за дзень! Можна выкарыстоўваць як свежыя, так і сушаныя лісці.

**Рэцэпт для лячэння цыстыту:**

50 г лісцяў запарыць літрам вару. Настойваць 4 гадзіны ў закрытым посудзе. Працадзіць. Піць па паўшклянкі 4-5 разоў у дзень.

Можна знізіць высокую кіслотнасць страўнікавага соку ці нармалізаваць яе лісцямі чырвонай парэчкі.

**Рэцэпт:** *20 г свежых лісцяў заліць літрам белага віна. Настойваць 2 тыдні ў цёмным месцы пры пакаёвай тэмпературы. Піць па 70 г за 20-25 хвілін да яды.*

**Цудоўны мачагонны сродак:**

**Рэцэпт:** *20 г лісцяў запарыць шклянкай вару. Настойваць да ахаладжэння. Працадзіць. Піць па 2 ст. лыжкі 3 разы ў дзень.*

Трэба памятаць, што гэта цудоўны патагонны сродак. Улічвайце гэта пры лячэнні ацёкаў, дрэнна адыходзячай мачы.

Сок чырвонай парэчкі добра выводзіць з арганізму мочакіслыя солі.

На зіму парэчку чырвоную лепш не варыць, а мяшаць яе з мёдам. Ад гэтага спалучэння лячэбны эфект узрастае і вы захаваеце ўсе ўнікальныя лячэбныя ўласцівасці ягад.

# ХАРЧЫ І АЛКАГАЛІЗМ

Харчы сучаснага чалавека сталі менш разнастайнымі. Яны ўтрымліваюць мноства сінтэтычных харчовых дабавак, якія зусім не патрэбныя, а то і шкодныя арганізму. Але самае галоўнае, яны сталі на трэць рафінаванымі.

Рафінаваныя прадукты (белы цукар, мука тонкага размолу, рафінаваны алей, жывёльны тлушч і інш.) пазбаўлены прыродных рэчываў, надзвычай важных для здароўя чалавека. Інакш кажучы, структурна-інфармацыйны патэнцыял сучаснага харчовага рацыёну знізіўся катастрафічна.

Найбольшую небяспечнасць рэкламуемыя стандартныя харчы ўяўляюць для дзяцей і падлеткаў, якія з раніцы да вечара смокчуць карамелькі, жвуць снікерсы, пячэнне і п'юць пепсіколу і іншыя салодкія напоі замежнага паходжання (хоць нават і ў нас вырабленыя).

Залішняе ўжыванне рафінаванага цукру і белай мукі, што ўтрымліваецца ў гэтых прадуктах, прыводзіць да таго, што ў крыві час ад часу, як ні дзіўна, узровень цукру рэзка зніжаецца. Гэты фенамен называюць рэактыўнай гіпаглікеміяй, якая развіваецца ў выніку эндакрыннага адказу падстраўнікавай залозы на вуглеводнае харчовае раздражненне. У такія моманты развіваецца войстрае пачуццё голаду.

Што робяць дзеці ў такой сітуацыі? Зноў жвуць снікерсы, купляюць марожанае, пепсі-колу ці іншыя «смачныя» напоі і п'юць. Ці купляюць рафінаваную жвачку, якой вакол шырокі выбар.

Усё б нічога, ды толькі вугляводны голад нараджае апетыт іншага роду — алкагольны. А ў тых, хто курыць, у такі моманты рука сама цягнецца за цыгаркай.

Алкагольны апетыт — рэч даволі цікавая. З ім добра знаёмыя хворыя алкагалізмам. Любы ўрач нарколаг, калі дае парады сваім пацыентам, абавязкова папярэджвае — не дапускайце ў сябе пачуцця голаду, інакш сарвецеся. Ды і здаровыя людзі добра ведаюць: калі прагаладаўся, чарка-другая пралятае птушачкай. А вось на сыты страўнік любая, нават самая добрая гарэлка і пахне дрэнна, і ў рот не лезе.

Самае цікавае, што алкагольны апетыт можна справакаваць з дапамогай асобага харчу не толькі ў людзей. Лабараторным пацукам неяк склалі корм па ўзору «снікерснай» дыеты, якую так любяць падлеткі. Другая ж група пацукоў атрымала стандартны корм, збалансаваны па асноўных прадуктах харчавання. Тыя і другія мелі вольны доступ да паілак з вадой і даволі моцным растворам эцілавага спірту, які яны не любяць. Літаральна праз некалькі дзён пацукі, якія атрымлівалі «моладзевы» корм, пачалі хлябаць спірт.

У другім доследзе пацукам давалі піць па выбару ваду, раствор цукру і пепсі-колу. Спірту гэтыя пацукі ні разу ў жыцці не спрабавалі. Дык вось, пепсі-колу пацукі паглыналі за суткі па 300-400 мл, што перавышае іх уласную вагу. Калі ў гэтых пацукоў змерылі ўзровень эндагеннага эцілавага спірту, аказалася, што яго ўтрыманне ў крыві павялічылася ў 2 разы. Але яшчэ больш — у чатыры разы — павялічылася ўтрыманне воцатнага альдэгіду. Гэта значыць, напой, які выбіраюць нашы дзеці (і пацукі), перабудоўвае абмен рэчываў у арганізме на алкагольны лад. Відавочна, пепсі-кола і, напэўна, іншыя падобныя на яе безалкагольныя напоі, утрымліваюць рэчывы, якія ўплываюць на арганізм не лепшым чынам. Зусім можа быць, што яны ўносяць вельмі сур'ёзны ўклад у фарміраванне цягі да спіртнога, з пяшчотнага ўзросту прывучаючы аматараў салодзенькага да алкаголю. Таму, калі не хочаце, каб вашы дзеці сталі алкаголікамі, не пічкайце іх «снікерсамі» і пепсі-колай, іншымі «смачнымі» (салодкімі) напоямі.

## Ці ведаеце вы, што...

Ежа з малым утрыманнем солі выклікае рост халестэрыну ў арганізме і садзейнічае развіццю інфаркту міякарда.

* * *

Мёд утрымлівае бактэрыцыдныя рэчывы, якія пры награванні разбураюцца і мёд траціць лекавыя ўласцівасці. Ён становіцца толькі як цукар, з такой жа каларыйнасцю і такім жа шкодным для зубоў.

* * *

Вострыя спецыі, такія як хрэн, чырвоны стручковы і молаты перац забіваюць мікробаў, паляпшаюць работу печані і жоўцевага пузыра.

Кароўскае масла ўтрымлівае шмат алеінавых кіслот, якія нармалізуюць работу сэрца.

* * *

Многія прадукты маюць патрэбу адзін у другім. Напрыклад: мяса і рыбу заўсёды трэба есці з гароднінай.

## Колькі трэба спаць?



Норма вызначаецца жаданнем і патрэбнасцю чалавека. Але неабходны мінімум усё ж такі існуе. Гэта — 5-5,5 гадзіны. Калі тры ночы запар паспаць менш гэтага, то ў арганізме адбудуцца такія ж змены, як і пасля сутак без сну наогул. Пазбаўленне сну пагражае спачатку эмацыянальнымі расстройствамі, а потым зрокавымі і слыхавымі парушэннямі, адчуваннямі боляў у нагах і руках, павышэннем адчувальнасці да болю. Чалавеку, які вельмі доўга не спаў, бывае цяжка падабраць правільныя слова ў размове. Ён забывае нядаўнія падзеі.

Калі вы правялі ноч без сну, трэба паўнацэнна выспацца дзве наступныя ночы — і ўсё будзе ў парадку. Важна, каб пасля сну вы адчувалі сябе бадзёрымі, адпачыўшымі і гатовымі да работы, каб на працягу дня ў вас не ўзнікала санлівасці. Наспацца ў запас, як часцяком робяць перад святамі, немагчыма. І проста бескарысна гэтак жа, як паспрабаваць напіцца, наесціся, нагаварыцца і назаймацца каханнем у запас. Усё роўна зноў захочацца — гэтак устроены наш арганізм.

**Вольга ДЗЮБАНКОВА.**

## Лечымся спецыямі

Лаўровы ліст — вялікі ачышчальнік, выводзіць солі. Ад трох да сямі лісцікаў на шклянку вады. Варым на маленькім агні да дзесяці хвілін, ахаладжваем, у слоіку з накрыўкай ставім у халадзільнік і прымаем тры-чатыры разы ў дзень два тыдні запар па сталовай лыжцы за 15 хвілін да яды. Гэты састаў добра выводзіць пясок з нырак і мачавога пузыра.

## Пры адэноме прастаты

Добрым гаючым сродкам з'яўляецца штодзённае ўжыванне невялікай цыбуліны. Проста і танна. Без лікаў.

З народнага лячэбніка

## Спосаб лячэння нутранога гемарою

Узяць тоўсты гліняны гаршчок (махотку) і наліць у яго 2 кварты малака. Апусціць туды 4 вялікія цыбуліны. Гаршчок павінен быць зачынены накрыўкай. Усё гэта варыць у духоўцы на малым агні. Калі ўсё добра праварыцца, гаршчок паставіць у патрэбнае месца, закрыць драўлянай накрыўкай з дзіркаю у цэнтры прыкладна 2 дзюймы ў дыяметры.

Над гэтай дзіркай прагравацць задні праход да той пары, покуль будзе выходзіць пара.

Можна паўтарацьь сеанс праз 3 дні. Трох ці чатырох праграваванняў лічацца дастатковымі. Не залішнім будзе за 6 гадзін да сеансу ўжыць паслабляльнае, а перад сеансам і пасля змазаць у заднім праходзе вазялінам.

Гэты сродак лічыцца незаменным для лячэння нутранога гемарою.

## Бразільскі сродак ад кашлю

Бяруць спелыя бананы, працірающь іх праз сіта, кладуць у каструлю з гарачай вадою у прапорцыі: два бананы на адзін кубак вады з цукрам, зноў падаграваюць гэту сумесь і п'юць гарачай.

## Народныя прыкметы

Пераносіца свярбіць — да нябожчыка, наздра — да хрэсбін, збоку — да вестак, кончык носа — да выпіўкі.

Чхнеш у панядзелак нашча — да падарунка, у аўторак — да прыезджых, у сераду — да вестак, у чацвер — да пахвалы, у пятніцу — да спаткання, у нядзелю — да гасцей.

У правым вуху звініць — да добрых вестак, у левым — да худых.

Спатыкнуўся — хтосьці лаянкай памянуў.

У каго вуха гарыць, пра таго кажуць: правае — праўду, левае — брахню.

Калі сонейка закацілася, новага бохана не пачынаюць — жабрацтва адолее.



Куток гаспадыні

## Салата з сельдэрэю

*6 каранёў сельдэрэю, 1 цыбуліна, 2 морквы, 1/2 шклянкі смятаны, соль па смаку.*

Прамыты і ачышчаны сельдэрэй дробна нашынкаваць, заліць падсоленым варам на 2-3 хвіліны. Ваду адцадзіць, дадаць дробна нарэзаную цыбулю, моркву, соль, смятану, перамяшаць. Можна дадаць да салаты 2-3 адвараныя бульбіны ці 2 свежыя яблыкі, здробненае варанае яйка.

## Суп з сельдэрэю

*1,5 л вады, 4 карані сельдэрэю, 2 ст. лыжкі мукі, 2 жаўткі, 3 ст. лыжкі раслінна́га алею, 2 ст. лыжкі смятаны, зеляніна пятрушкі, кропу.*

Ачышчаны корань сельдэрэю нацерці на буйной драчцы, тушыць у алеі, дадаць муку, уліць у гарачую ваду, варыць да гатоўнасці. Пасаліць, дадаць жаўток, змешаны са смятанай, дробна нарэзаную зеляніну кропу і пятрушкі.



## Напой кахання

Узяць пароўну мяту, святаяннік, рамонак, кветкі ліпы, лісце маліны, парэчак, змяшаць. Можна браць як свежую, так і сушаную сыравіну. Сталовую лыжку сумесі заліць крутым варам і настояць, пакуль стане напой летным. Працадзіць. Дадаць па смаку мёд. Піць толькі свежы напой. Падагравацьь нельга — траціцца яго якасць.

Накармі, гаспадынька, свайго каханага гэтымі стравамі за 2 гадзіны за таго, як класціся ў ложак з ім, і ты не пашкадуеш.

## Шакаладны напой

Плітку шакаладу — 100 г — здрабніць нажом і кавалачкі ўсыпаць у эмаліраваную каструлю, куды дадаць 1 л халоднага малака. Каструлю паставіць на агонь і варыць, па смаку дадаць цукар. Падаць гарачым.

## Малако з мёдам

На шклянку гарачага малака — кавалачак сметанковага масла і адну сталовую лыжку мёду.




**Абанент N 9**
**Валянціна. 54 гады.**
Рост — 160 см, вага — 57 кг. Спакойная, ўважлівая, без шкодных звычак, чыстасардэчная.

Пазнаёмлюся для стварэння сям'і з добрым, спакойным, без шкодных звычак мужчынам, ростам ад 170 да 176 см.

*Адрас у рэдакцыі.*

**Абанент N 10**

**Святлана. 60 год.** Сярэдняга росту, сярэдняй паўнаты. Адзінокая пенсіянерка. Жыллём забяспечана.

Пазнаёмлюся з высокім мужчынам старэй 67 год, прыстойным, інтэлігентным.

*Адрас у рэдакцыі.*

**Абанент N 11**

**Раіса. 38 год.** Рост — 165 см. Вага — 70 кг. Сімпатычная бландзінка, блакітнавокая, стройная, працалюбівая, была замужам, ёсць 2 сыны, абодва жанатыя.

Пазнаёмлюся з мужчынам ад 35 да 50 год для стварэння сям'і. Згодна на пераезд.

*Адрас у рэдакцыі.*

**Абанент N 12**

**Уладзімір. 56 год.** Рост — 160 см. Вага — 70 кг. Жанаты ня быў. Даволі прыстойны адзінокі мужчына. Аддам у падарунак усё непатрачанае каханне і пяшчоту адзінокай жанчыне без дзяцей.

*Адрас у рэдакцыі.*

**Увага!**
**Паважаныя чытачы!**

Аб'явы ў клуб знаёмстваў прымаюцца бясплатна на купонах, што змяшчаюцца ў газеце раз у месяц. Калі тэкст аб'явы не змяшчаецца ў клетках купона (адзін знак у адной клетцы), то трэба пералічыць рэдакцыі плату па тарыфах, якія дзейнічаюць на момант атрымання рэдакцыяй вашай аб'явы. Тарыфы сёння друкуюцца на 1-й старонцы газеты і будуць дзейнічаць да ўстанаўлення новых.

Для атрымання адрасу абанента, калі ён не ўказаны ў аб'яве, дасылайце ў рэдакцыю разам з запытам пусты канверт з вашым адваротным адрасам.

Што ў імені тваім?

## Аляксандра

Толькі вялікае каханне можа ўціхамірыць яе парывы. Замуж выходзіць позна і становіцца не толькі цудоўнай гаспадыняй, але і добрым сябрам свайму мужу. У шлюбе пастараецца мець шмат дзяцей, будзе клапатлівай маці. Шчаслівай будзе у шлюбе з Анатолем, Андрэем, Віктарам, Іванам, Пятром, Сямёнам, Юрыем. Няшчасная з Валянцінам, Валерыем, Яўгенам, Георгам, Мікалаем і Сцяпанам.

"Беларускі Ўсход"

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.
На беларускай і рускай мовах.
*Заснавальнік* — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670.
Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89

**Рэгістрацыйны N 141**
Падпісны індэкс — 64098

*Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.*
*За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.*

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 31 кастрычніка 2001 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1420 ас.** Аб'ём 1 друк. аркуш. **Заказ № 39.**